МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ "ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

№5 (145)
травень 2014

# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## У НУМАРЫ:

### "КАЛІ Б НЕ ТБМ, УЛАДЫ Б ДАЎНО ПЕРАВЯЛІ БЕЛАРУСКУЮ МОВУ Ў РАЗРАД МЁРТВЫХ"

Сярод сябраў Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны – замежныя даследчыкі Беларусі, бразільскія студэнты, што навучаюцца ў нашай краіне, беларускія вайскоўцы і міліцыянты, якія просяць не афішаваць іхных імёнаў. Дзякуючы іхным ахвяраванням ТБМ жыве.

*Чытайце на стар. 3*

### БЕЛАРУСАЎ ЗАМЕЖЖА АДДАЮЦЬ ПАД КАНТРОЛЬ МЗС

У траўні дэпутаты Палаты прадстаўнікоў у другім чытанні ўхвалілі закон "Аб беларусах замежжа".

*Чытайце на стар. 5*

### ПРАЦЯГ ВАНДРОВАК ПА ЛАТГАЛІІ АБ'ЯДНАННЯ "МАЮ ГОНАР"

У сонечны травеньскі дзень, калі па ўсёй Латгаліі цвіла чаромха, у адным са старажытных гарадоў гэтага краю Латвіі – Вараклянах, адбылося адкрыццё выставы "Беларускія ўражанні" Аб'яднання мастакоў-беларусаў Балтыі "Маю гонар".

*Чытайце на стар. 6*

### ВІНШАВАЛЬНЫ ЛІСТ З НАГОДЫ 60-ГОДДЗЯ АНГЛА-БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА

17 траўня Англа-беларускае таварыства адзначыла сваё 60-годдзе.

*Чытайце на стар. 7*

IN MEMORIAM

## НЕ СТАЛА ГЕНАДЗЯ БУРАЎКІНА...




*Фота Аляксандра Ждановіча*

У лепшы свет адышоў Генадзь Бураўкін, знаны беларускі паэт, журналіст, дыпламат, грамадскі дзеяч, сябра Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", Рады Саюза беларускіх пісьменнікаў, Рады беларускай інтэлігенцыі, сябра Беларускага ПЭН-цэнтру. У жніўні яму споўнілася б 78 гадоў. Апошнія месяцы ён змагаўся з анкалагічным захворваннем. Памёр Генадзь Мікалаевіч у сваёй кватэры раніцай 30 траўня.

Развітанне адбылося ў мінскім саборы Святых апосталаў Пятра і Паўла ў суботу, 31 траўня. Правесці паэта ў апошні шлях прыйшлі сотні людзей. Пахавалі Генадзя Мікалаевіча на Усходніх могілках Мінска.

Генадзь Бураўкін нарадзіўся 28 верасня 1936 года ў вёсцы Шуляціна Расонскага раёна. На гады яго дзяцінства прыпаў страшны час нямецкай акупацыі, якую цудам удалося перажыць.

Пазней, у мірны час, Генадзь Бураўкін скончыў аддзяленне журналістыкі філфака БДУ (1959). Затым працаваў у часопісе "Камуніст Беларусі", у газеце "Літаратура і Мастацтва", быў карэспандэнтам "Праўды" па Беларусі. Паводле ягоных згадак, праца журналістам навучыла яго паважліва і адказна ставіцца да слова.

Калі Генадзь Мікалаевіч працаваў галоўным рэдактарам часопіса "Маладосць", то друкаваў творы Васіля Быкава і Уладзіміра Караткевіча, а таксама знакамітую кнігу Алеся Адамовіча, Янкі Брыля і Уладзіміра Калесніка "Я з вогненнай вёскі".

12 гадоў (1978—1990) ён быў старшынёй Дзяржтэлерадыё БССР. На той час на беларускім радыё і тэлебачанні была спрэс амаль адна руская мова. Генадзь Бураўкін паклаў шмат высілкаў дзеля таго, каб беларускай мовы ў эфіры рабілася больш і больш, а змагацца за гэта было вельмі няпроста, не абыходзілася і без даносаў.

У 1990-м за падтрымку дэмакратычных сіл і прадстаўленне эфіру лідарам БНФ Генадзя Бураўкіна вызвалілі ад пасады на Дзяржтэлерадыё і накіравалі на дыпламатычную працу. Так ён стаў

➲

# Не стала Генадзя Бураўкіна...

першым прадстаўніком нашай краіны пры АНН у Нью-Ёрку. Там ён працаваў з 1990 па 1994 гг. – гэта быў надзвычай адказны і важны перыяд, калі перастала існаваць БССР і з’явілася Рэспубліка Беларусь. У тыя часы беларускую дыяспару ЗША, як і іншых заходніх краінаў, савецкая ідэалогія лічыла калабарантамі і здраднікамі. Натуральна, што беларусы далёкага замежжа з вялікім недаверам ставіліся да любых прадстаўнікоў Беларусі на дзяржаўным узроўні. І менавіта дзякуючы Генадзю Бураўкіну пачала стварацца аснова для даверу паміж дыяспарай і маладой беларускай дзяржавай. Падчас сваёй працы ў ЗША Генадзь Мікалаевіч сустракаўся з Вітаўтам Кіпелем, Янкам Запруднікам, Масеем Сяднёвым, Наталляй Арсенневай і іншымі дзеячамі беларускай эміграцыі. Дзякуючы яму ўсталёўваліся гэтыя першыя, такія важныя кантакты.

Генадзь Бураўкін заўжды карыстаўся вялікай павагай з боку беларусаў замежжа. Ён быў адным са стваральнікаў Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", аўтарытэтам для кожнага сябра Згуртавання. Яго аўтарству належыць назва кніжнай серыі "Бацькаўшчына" – "Асобы Беларусі". Генадзь Мікалаевіч заўжды быў побач у найбольш складаныя і цяжкія часы для нашай арганізацыі.

У 1993 годзе Генадзь Бураўкін звярнуўся да старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь з просьбай аб вызваленні ад дыпламатычнай пасады, бо ў гэты час у Беларусі адбываліся важныя падзеі, ішло станаўленне беларускай дзяржавы, і спадар Генадзь адчуваў, што на Радзіме ён патрэбны больш. У 1994 годзе ён вярнуўся ў Беларусь, дзе працягваў актыўна працаваць на карысць нашай Бацькаўшчыны. У 1994-1995 гадах ён быў намеснікам міністра культуры і друку, а ў 1995-2001 гадах працаваў у часопісе ”Вожык”. У 2000 годзе быў сустаршынёй Усебеларускага з'езду за Незалежнасць, на якім быў прыняты Акт незалежнасці Беларусі. Некаторы час Генадзь Бураўкін узначальваў Таварыства беларускай мовы. Акрамя таго, ён быў сябрам Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", Рады Саюза беларускіх пісьменнікаў, Рады беларускай інтэлігенцыі, сябрам Беларускага ПЭН-цэнтра.

Вершы і песні на словы Генадзя Бураўкіна вядомыя, бадай, кожнаму беларусу. Наўрад ці знойдзецца той, хто не засынаў у дзяцінстве пад яго "Калыханку". Усяго ж цягам жыцця Генадзь Бураўкін напісаў больш за два дзясяткі паэтычных кніг. За адну з іх – зборнік "Варта вернасці", які выйшаў у 1978 годзе, – паэт быў адзначаны Дзяржаўнай прэміяй БССР імя Янкі Купалы.

***

Народ мой,
дзякую табе,
Што і на міг мне не дазволіў,
Каб я кагосьці абязволіў,
Жыў у кагосьці на гарбе,
Што ў радаслоўную ўпісаў
Не гандляроў і прайдзісветаў,
А плытагонаў, і паэтаў,
І штукароў ганчарных спраў.

Народ мой,
дзякую,
што ты
Велікадушна даў мне ў рукі
Не алебарды і шчыты,
А лемяхі і першадрукі,
Што нашаптаць мне не забыў
Не грукатню бравурных маршаў,
А задуменнасць песень нашых,
Дзе столькі болю і жальбы.

Народ мой,
дзякуй,
што нідзе
Мяне балюча не ўпікнулі
За твой далёкі век мінулы,
За сённяшні твой сіні дзень.
І аднаго хачу ў жыцці,
Каб ты не паглядзеў з дакорам,
Каб за мяне ніколі сорам
Табе душу не засмуціў.

*Генадзь Бураўкін,*
*са зборніка "Варта вернасці"*

Генадзь Бураўкін пакінуў гэты свет. Гэта боль і смутак для кожнага з нас.

Генадзь Бураўкін з тых, хто ствараў незалежную Беларусь. І мы верым, што яго паэзія, яго слова і плён яго добрых справаў будуць жыць разам з намі далей, як і нашая светлая памяць пра яго.

*Інфармацыйны цэнтр*
*МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

# У Нямеччыне памёр беларускі перакладчык Уладзімір Чапега




24 траўня ў Нямеччыне пасля працяглай і цяжкай хваробы памёр знаны перакладчык беларускай літаратуры Уладзімір Чапега. Крыху менш за месяц ён не дажыў да свайго 75-годдзя.

Ён нарадзіўся на беларускім Палессі ў сялянскай сям’і. Скончыў Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут замежных моваў і год працаваў выкладчыкам у сваёй альма матэр.

Першыя пераклады Уладзіміра Чапегі з’явіліся ў друку ў 1971 годзе. Дзякуючы яму нямецкія чытачы атрымалі аповесці Васіля Быкава "Абеліск" і "Здрада", раман Івана Мележа "Людзі на балоце", кнігу эсэ Уладзіміра Караткевіча "Зямля пад белымі крыламі", аповесць Анатоля Кудраўца "Раданіца", кароткую прозу Янкі Брыля, творы Лукаша Калюгі, Міхася Зарэцкага і яшчэ многіх беларускіх літаратараў.

Пісьменнік Уладзімір Арлоў кажа: ”Хачу сказаць яшчэ пра адну заслугу Уладзімера Чапегі перад нашай культурай. Ён быў шваграм славутага перакладчыка, беларусіста Норберта Рандава. Менавіта дзякуючы мужу сваёй сястры Гундулы Норберт зацікавіўся нашай культурай, авалодаў беларускай мовай і пераклаў цэлую беларускую бібліятэку”.

Справа Уладзіміра Чапегі — гэта і пераклады нямецкіх аўтараў на беларускую: раманы Герберта Ота "Пара ў дарогу, буслы" (з Язэпам Семяжонам), Альфрэда Амэнды "Апасіяната", Леангарда Франка "Ісусавы вучні" (з Гундулай Чапегай), асобныя творы Гермліна, Цвайга.

У старажытным нямецкім горадзе Нойштрэліц, які стаў для яго другой радзімай, і знойдзе апошні прыстанак беларускі перакладчык Уладзімір Чапега.

*Паводле "Радыё Свабода"*

***Управа МГА ”ЗБС ”Бацькаўшчына” выказвае шчырыя спачуванні ўсім блізкім і родным спачылага. Светлая яму памяць!***

# "КАЛІ Б НЕ ТБМ, УЛАДЫ Б ДАЎНО ПЕРАВЯЛІ БЕЛАРУСКУЮ МОВУ Ў РАЗРАД МЁРТВЫХ"

Сярод сяброў Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны – замежныя даследчыкі Беларусі, бразільскія студэнты, што навучаюцца ў нашай краіне, беларускія вайскоўцы і міліцыянты, якія просяць не афішаваць іхных імёнаў. Дзякуючы іхным ахвяраванням ТБМ жыве.

Пасля апошняга павышэння арэнднай платы ў красавіку Таварыства беларускай мовы вымушанае плаціць за менскі офіс 10 771 200 рублёў штомесяц. Дзе знайсці такія сродкі некамерцыйнай арганізацыі?

Як распавёў старшыня Таварыства Алег Трусаў, кожны год больш за 2000 сяброў ТБМ дасылаюць свае ахвяраванні.

Алесь Чэчат, кіраўнік мінскай Фрунзенскай суполкі ТБМ, выкладчык беларускай мовы ў лінгвістычным каледжы і сталы ахвярадаўца Таварыства, упэўнены, што дзякуючы ТБМ беларуская мова працягвае жыць, і таму арганізацыю трэба захаваць.

"Калі не мы, дык хто будзе падтрымліваць Таварыства? – пытаецца выкладчык. – Гэта на пачатку 1990-х было фінансаванне ад дзяржавы, а цяпер мы выжываем толькі на тое, што людзі пералічваюць са сваіх заробкаў і пенсіяў. Калі б не ТБМ, нашыя ўлады даўно б перавялі беларускую мову ў разрад мёртвых моваў. Толькі дзякуючы ТБМ беларуская мова яшчэ жыве".

**Масквіч з беларускімі каранямі лічыць сваім абавязкам захаванне беларускай мовы**

Аркадзь Прыгожын – вядомы расійскі сацыёлаг, займае кіроўную пасаду ў Акадэміі народнай гаспадаркі і дзяржаўнай службы пры прэзідэнту Расійскай Федэрацыі. Даўні сябра Таварыства беларускай мовы і сталы ахвярадаўца. Беларускую мову палюбіў у дзяцінстве дзякуючы цётцы-габрэйцы.

"Я нарадзіўся і правёў дзяцінства ў Пінску. Любоў да беларускай мовы перадала мне мая цёця, Марыя Залманаўна Сафро, – распавёў спадар Аркадзь. – Яна, хоць і была габрэйка, размаўляла толькі па-беларуску, была выкладчыцаю беларускай мовы, да яе прыходзілі сяброўкі, і яны заўсёды размаўлялі па-беларуску. А я слухаў і так вучыўся мове".

Паводле спадара Аркадзя, цёця вельмі перажывала, што беларуская мова русіфікавалася, і ўвогуле на першыя пазіцыі ў краіне выходзіла руская мова.

"Памятаю, цёця тады часта ўсплёсквала далонямі, з горыччу кажучы: "Яшчэ адно беларускае слова мы згубілі!" – успамінае маскоўскі сябра ТБМ.

Пасля смерці Марыі Сафро пяць гадоў таму Аркадзь Прыгожын далучыўся да Таварыства беларускай мовы, кожны год ахвяруе грошы, і лічыць сваім абавязкам дапамагаць захоўваць беларускую мову.

"Я – расіец з беларускімі каранямі, у мяне шмат блізкіх жывуць у Беларусі. І я маю пачуццё доўгу – захаваць беларускую мову, культуру, беларускую адметнасць, у якой жылі мае продкі".

**Ахвяраванні прыходзяць з усяго свету**

Дасылаюць ахвяраванні, паводле старшыні ТБМ, з ЗША, Канады, Швейцарыі. Хоць большасць ахвярадаўцаў – мінчукі. Часам дапамагаюць палітычныя партыі.

"Не так даўно нам ЛДПБ пералічыла 2 мільёны рублёў, і актывісты з "Тавары праўду!" летась сабралі больш за 2 мільёны, – распавёў спадар Трусаў. – З іншых партыяў, праўда, не дапамагаюць, бо не любяць яны нас, што мы крытыкуем іх рускамоўнасць. Бо ў нас цвёрдая пазіцыя – калі ты беларускі палітык, ты мусіш размаўляць па-беларуску".

Ахвяраванні ідуць не толькі на аплату арэнды офіса, але і на друк кніжак, арганізацыю канферэнцыяў, выданне дзвюх газет. Паводле Алега Трусава, усё гэта вельмі важна захаваць, бо так беларуская мова працягвае жыць ды існаваць сярод людзей.

Падтрымкі дзяржавы ў ТБМ асабліва не чакаюць, хутчэй – каб не чапалі.

За сяброўства з ТБМ цяпер у Беларусі нікога не пераследуюць, адзначае спадар Трусаў, і прыводзіць станоўчыя прыклады супрацы з дзяржаўнымі органамі. Гэтак, нядаўна Міністэрства сувязі і інфармацыі з ініцыятывы ТБМ надрукавала канверты, прысвечаныя юбілею Яўстаха Тышкевіча.

**Міліцыянты – сябры ТБМ баяцца называць свае імёны**

ТБМ існуе з 1989 года. У складзе арганізацыі больш за 450 мясцовых суполак, якія ёсць ва ўсіх абласных цэнтрах, у кожным буйным раённым горадзе і нават у вёсках. Алег Трусаў адзначыў, што сярод сяброў ТБМ ёсць нават вайскоўцы і міліцыянты, але яны просяць не афішаваць іхных імёнаў і сяброўства з ТБМ.

Суполкі ТБМ ёсць у Нямеччыне, Польшчы, Літве, Латвіі, ЗША, Канадзе, Аўстраліі. У ТБМ, паводле Алега Трусава, уступае і шмат замежнікаў, тых, хто цікавіцца беларускаю моваю, даследчыкаў ці студэнтаў, што прыехалі вучыцца ў Беларусь.

Агулам у ТБМ сёння больш як 6000 актыўных сяброў.

**ТБМ патрэбная дапамога**

Кіраўніцтва ТБМ звяртаецца па падтрымку да грамадзянаў Беларусі ды іншых краінаў. Ахвяраваць грошы можна на наступны рахунак: 3015741233011 код 739 у аддзяленні №539 ААТ "Белінвестбанк", УНП 100129705.

*Марына Маўчанава, belsat.eu*

# У БРАЦІСЛАВЕ ПРАЙШЛА АКЦЫЯ САЛІДАРНАСЦІ З БЕЛАРУСКІМІ ПАЛІТВЯЗНЯМІ



У сталіцы Славакіі Браціславе актывісты Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі і Хрысціянска-Дэмакратычнага Руху Славакіі правялі акцыю салідарнасці з беларускімі палітвязнямі: як тымі, хто адбывае турэмнае зняволенне, так і тымі, хто быў зняволены на час Чэмпіянату свету па хакеі.

Падчас свайго візіту ў Славакію актывісты БХД мелі магчымасць station паназіраць за правядзеннем выбарчай кампаніі ў Еўрапарламент, абмеркаваць са сваімі славацкімі калегамі знешнепалітычную сітуацыю, сітуацыю з правамі чалавека ў Беларусі і рэпрэсіі напярэдадні і падчас ЧС-2014 у Мінску.

*bchd.info*

# ЯК СЫН ПРАКУРОРА ЗАГАВАРЫЎ ПА-БЕЛАРУСКУ І ПАЧАЎ МАЛІЦЦА ЗА КАРАЛЕВУ

*(Публікуецца ў скароце. Цалкам матэрыял ёсць на сайце zbsb.org)*

Школьнік з Івацэвічаў купіў за 2 рублі ў шапіку "Саюздруку" часопіс, які моцна паўплываў на лёс маладзёна ў пачатку 90-ых гадоў. З таго часу шмат што змянілася – хлопец стаў святаром, выехаў у Лондан і будуе там царкву, што мае стаць помнікам па Чарнобыльскай бядзе.

**Як усё пачыналася?**

Хлопец-падлетак доўга стаяў ля газетнага шапіка ў невялікім беларускім мястэчку Івацэвічы. Прыглядаўся праз запыленую шыбу да свежых часопісаў, мяў у кішэні 2 рублі. Ягоны зрок спыніўся на адным з асобнікаў "Уніі" – часопіса, які ў першай палове 1990-ых гадоў выдавалі беларускія грэка-каталікі. Купіўшы выданне, хлопец прачытаў яго на адным дыханні – гэтак ён даведаўся пра гісторыю ўніяцтва ў Беларусі. Набыты часопіс выклікаў у Сяргея Стасевіча (так звалі нашага героя з Івацэвічаў) нязведаную дагэтуль прагу – імкненне стаць грэка-каталіком, а потым і святаром.

Захапляючыся сярэднявечнаю гісторыяй, шмат чытаючы пра рыцараў і крыжовыя паходы, рымскіх папаў і еўрапейскіх каралёў, старшакласнік Сяргей ужо раней адкрыў для сябе каталіцтва. "Мы з адным аднакласнікам, з якім мы хадзілі разам яшчэ ў дзіцячы садок, вельмі пасябравалі ў старэйшых класах. Нас аб'яднала агульнае захапленне гісторыяй. Мы былі летуценнікі, якіх ядналі і рэлігійныя моманты ў гісторыі. Неяк мы вырашылі наведаць каталікоў. Нехта нам параіў: "Ідзіце ў клуб лесазаводу – там палякі моляцца (усе каталікі былі для нашых людзей палякамі)". Мы і пайшлі, каб распытаць пра крыжовыя паходы ды інквізіцыю. Ксёндз і манашка, якіх мы засталі, аслупянелі ад нашых пытанняў і спрабавалі неяк няўпэўнена і вінавата нешта распавесці – мы, аднак, былі незадаволеныя з адказаў. Але ўсё ж з гэтага часу пачалі рэгулярна хадзіць на імшу, якая тады была па-польску і толькі часткова па-руску і па-беларуску", – узгадаў наш суразмоўнік першыя крокі на шляху да святарства.

"Унія" адкрыла перад хлопцамі новую дарогу – каталіцтва, але ў родным усходнім абрадзе, такім самым, як у праваслаўнай царкве. Праз некаторы час не толькі Сяргей Стасевіч абярэ для сябе шлях грэка-каталіцкага святара, але і ягоны школьны сябра – Андрэй Крот – адчуе ў сабе такое ж пакліканне.

**Па-беларуску пачаў размаўляць "дзеля прыколу"**

Айцец Сяргей паходзіў з рускамоўнай сям'і, але на першую палову 90-ых гадоў, калі ён вучыўся ў сярэдняй школе, прыпала хваля беларусізацыі. "У нас была вельмі патрабавальная і рэзкая настаўніца беларускай мовы. Яна сама па жыцці была рускамоўная, але ўвесь час страшыла: "Не будзеце вучыць беларускай мовы – нікуды не паступіце". Дзякуючы ёй я цяпер ведаю родную мову. Тады ж на ўроках было адно, а на перапынках усе гаварылі па-руску. Неяк я са сваім сябрам Андрэем паспрабавалі гаварыць па-беларуску і паза ўрокамі. Тут не было ніякай адмысловай прычыны – загаварылі проста так, "дзеля прыколу", як нам, падлеткам, тады падавалася. Пэўна, тут было жаданне супрацьставіцца асяроддзю. Паступова родная мова станавілася для нас усё больш важнаю і нам хацелася гаварыць толькі на ёй".



**Па навуку ў вялікі свет**

Айцец Сяргей прызнаўся, што пасля школы вельмі хацеў паступіць у сталічны ўніверсітэт і выбраў БДУ. "Мая маці была прынцыповым чалавекам і, хоць мела сувязі, якія, напэўна, маглі мне дапамагчы паступіць на нейкі прэстыжны факультэт, сказала: "Паступай туды, куды зможаш сам". У 1994-ым у БДУ акурат адкрывалася новае аддзяленне – культуралогія на філасофска-эканамічным факультэце. Туды не трэба было здаваць матэматыкі, з якою ў мяне былі вечныя праблемы, і спатрэбіліся мае веды з беларускай гісторыі, мовы і літаратуры. Паступаючы, я ўжо ведаў, што насамрэч хачу стаць не культуролагам, а грэка-каталіцкім святаром".

Будучы ў Мінску, маладзён з Івацэвічаў уліўся ў грэка-каталіцкую суполку. Скончыўшы аддзяленне культуралогіі ў Мінску, вучыўся яшчэ ў Рыме і Лондане. У сталіцы Вялікай Брытаніі малады беларус атрымаў дыяканскія і святарскія пасвячэнні з рук біскупа Украінскай грэка-каталіцкай царквы, бо беларускія ўніяты дагэтуль не маюць свайго біскупа. Пасля гэтага пачаў дапамагаць айцу Аляксандру Надсану ў рэлігійнай і грамадскай дзейнасці сярод беларусаў-эмігрантаў пры Беларускай каталіцкай місіі.

**Царква – як сімвал Беларусі**

Малады і энергічны святар ужо здзейсніў рэканструкцыю легендарнага "Марыйнага дома" – сядзібы Беларускага рэлігійнага і культурнага цэнтра ў сталіцы Вялікай Брытаніі, а цяпер рэалізуе праект пабудовы сапраўднай беларускай царквы. "Мы молімся ў грамадскай зале ў будынку, па якім цяжка пазнаць звонку, што тут ёсць царква. Як мне здаецца, людзі неахвотна ідуць на нашыя службы ў звычайны дом – ім патрэбнае адчуванне сакральнасці прасторы, неба на зямлі", – заўважыў айцец Сяргей.

Царква, паводле святара, – гэта духоўны цэнтр і неад'емная частка краявіду шмат якіх беларускіх вёсак і мястэчак, таму і ў "сімвалічнай лонданскай Беларусі" мусіла б быць свая асобная бажніца.

З архітэктурным праектам будучай царквы святару дапамог малады лонданскі архітэктар кітайскага паходжання Цзыўай (Тшууай) Рафаэль Со, які раней зацікавіўся беларускаю культураю і гісторыяй ды прыняў хрост ад беларускіх грэка-каталікоў у Лондане. Каб як мага лепш перадаць асаблівасці беларускага дойлідства ў сваім праекце, маладзён перагартаў цэлыя стосы кніг і наведаў Беларусь, каб на свае вочы пабачыць святыні нашай зямлі. У выніку прапанаваў праект у беларускіх традыцыях: аднавежавая базіліка з дрэва, з гонтавым дахам, але ў сучаснай версіі – у бажніцы не будзе вокнаў як такіх, а святло ў яе будзе трапляць праз адмысловыя шкляныя сегменты ў драўляных сценах. "Яна будзе нібы гарэць святлом знутры. Царква стане помнікам па Чарнобыльскай трагедыі як сімвалу сучаснай Беларусі, суадноснаму з японскаю Хірасімаю. Усе беларусы – дзеці Чарнобыля, – падкрэсліў айцец Сяргей. – Мы спадзяемся, што з цягам часу нашую царкву ўнясуць у гіды па Лондане. Дзякуючы гэтаму беларуская прысутнасць у Лондане стане больш заўважнай".

*Паводле Віктара Шукеловіча, belsat.eu*

## БЕЛАРУСАЎ ЗАМЕЖЖА АДДАЮЦЬ ПАД КАНТРОЛЬ МЗС

У траўні дэпутаты Палаты прадстаўнікоў у другім чытанні ўхвалілі закон "Аб беларусах замежжа".

Дэпутаты заслухалі намесніка старшыні міжнароднай камісіі Віктара Фесака, які адзначыў: законапраектам прадугледжана, што адзіным дзяржаўным органам, які адказвае за каардынацыю ў гэтай сферы, будзе Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь.

Законапраект быў ухвалены ў другім чытанні без дыскусіі.

У першым чытанні гэты законапраект прынялі 22 лістапада 2013 года. Тады прадстаўляла гэты дакумент намесніца міністра замежных спраў Беларусі Алена Купчына. Яна сказала, што гэта абсалютна новы для Беларусі закон.

"Справа яго падрыхтоўкі ішла не адзін год: не ўсе пагаджаліся, што такі дакумент патрэбны і не ўсе пагаджаліся з ягонай канцэпцыяй. Таму, на погляд Міністэрства замежных спраў, гэты дакумент досыць кампрамісны. Яго мэта — развіваць далейшыя дачыненні з людзьмі, якія лічаць сябе нашымі суайчыннікамі", — заявіла тады Купчына.

Паводле звестак грамадскіх аб'яднанняў, беларусаў за межамі Бацькаўшчыны жыве 3–3,5 мільёны, паводле звестак міністэрства культуры — 2 мільёны, паводле МЗС — 1,5 мільёна.

Цяпер за мяжой дзейнічае 220 беларускіх суполак, найбуйнейшыя з іх — у Расіі, Літве, Польшчы, Казахстане, Украіне, ЗША і Канадзе.

Закон прызнае некалькі катэгорый людзей, якія адносяцца да беларусаў замежжа. Па-першае, грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія пастаянна пражываюць па-за межамі Беларусі; па-другое, замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства, якія пастаянна пражываюць па-за межамі Беларусі і самі альбо іх продкі па прамой лініі нарадзіліся або пражывалі на тэрыторыі сучаснай Рэспублікі Беларусь; па-трэцяе, замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства, якія пастаянна пражываюць па-за межамі Беларусі, ідэнтыфікуюць сябе як беларусы з пункту гледжання этнічнай прыналежнасці да беларускага народа або мовы, культуры і гістарычных сувязяў, ведання і захавання беларускіх традыцый і звычаяў.

Закон прадугледжвае падтрымку беларускіх суполак за мяжой, адкрыццё там культурных цэнтраў, культурны і адукацыйны абмен, права для замежных беларусаў на адукацыю ў Беларусі, гуманітарную дапамогу беларусам замежжа, якія апынуліся ў надзвычайных сітуацыях.

*Уладзімір Глод, "Радыё Свабода"*

## У МІНСКУ ПРОЙДЗЕ ФЕСТЫВАЛЬ МАСТАЦТВАЎ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ

II Фестываль мастацтваў беларусаў свету пройдзе ў верасні падчас свята Дня горада. Аб гэтым 21 траўня на прэс-канферэнцыі паведаміў дырэктар Рэспубліканскага цэнтра нацыянальных культур Міністэрства культуры Беларусі Міхаіл Рыбакоў, перадае карэспандэнт БЕЛТА.

"Гэты фестываль бярэ пачатак з Рэспубліканскага фестывалю нацыянальных культур, — сказаў Міхаіл Рыбакоў. — Прадстаўнікі дыяспары стараюцца набыць вопыт правядзення такіх форумаў. З іх падачы ў многіх рэгіёнах пачынаюць арганізоўвацца такія мерапрыемствы".

Форум праводзіцца з мэтай шырокай прэзентацыі Беларусі, дасягненняў мастацкай творчасці, падтрымкі праектаў суайчыннікаў, якія пражываюць у розных краінах, наладжвання кантактаў з імі і аказання арганізацыйна-метадычнай дапамогі з боку дзяржаўных органаў і грамадскіх арганізацый, мастацкіх калектываў, дзеячаў культуры і мастацтваў Беларусі.

Першы фестываль мастацтваў беларусаў свету прайшоў у 2011 годзе. Ён сабраў амаль 250 прадстаўнікоў беларускай дыяспары з Арменіі, Азербайджана, Казахстана, Кыргызстана, Малдовы, Нідэрландаў, Літвы, Латвіі, Польшчы, Расіі, Украіны і ЗША.

*"Звязда"*

## ДАРАФЕЙ ФІЁНІК – ЛАЎРЭАТ ПРЭМІІ КНЯЗЯ ІМЯ КАНСТАНЦІНА АСТРОЖСКАГА

Фалькларыст – стваральнік Музея малой бацькаўшчыны ў Студзіводах Дарафей Фіёнік – адзін з лаўрэатаў сёлетняй прэміі імя князя Канстанціна Астрожскага. "Узнагарода прызначаная за гарманічнае спалучэнне праваслаўных і беларускіх нацыянальных традыцый у сямейным і прафесійным жыцці, – кажа сам лаўрэат Дарафей Фіёнік. –

Традыцыйная культура і наша праваслаўная культура паміж сабою спалучаныя. Галоўнае, што іх спалучае менавіта сям'я, цэлае багацце абрадавых песняў не толькі сямейнага цыклу, як хрысціны ці вяселле, але і таксама вясна і жніво. Але ў цэнтры сям'я, і тое, што да сям'і вядзе".

Дарафей Фіёнік сёлета з'яўляецца адзіным лаўрэатам з Польшчы. Апрача яго, прэмію атрымалі манашкі з манастыра Малюля ў Сірыі, Міжпарламенцкая асамблея



праваслаўных парламентароў ды грэцкі мітрапаліт Ніколяос ды Віцебскі і аршанскі архіепіскап Дзмітры.

Узнагароды князя Астрожскага прысуджае Фонд імя князя Астрожскага і часопіс "Праваслаўны агляд".

*Лукаш Леанюк, "Беларуская Радыё Рацыя"*

ВІНШАВАННІ

## ВІНШАВАННЕ СЯБРАЎ ВЯЛІКАЙ РАДЫ



Маем гонар павіншаваць з Днём нараджэння сябраў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", якія нарадзіліся ў чэрвені: **Валянціна Голубева** (Беларусь), **Лявона Юрэвіча** (ЗША), **Тамару Плавінскую** (Кыргызстан), **Ганну Мазур** (Малдова), **Яўгена Вапу** (Польшча), **Валера Барташа** (Украіна), **Дзмітрыя Плакса** (Швецыя), **Ніну Савінаву** (Эстонія). Зычым творчага і радаснага настрою, цеплыні і здароўя, а таксама прыемных уражанняў і новых здзяйсненняў у жыцці!

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## ПРАЦЯГ ВАНДРОВАК ПА ЛАТГАЛІІ АБ'ЯДНАННЯ "МАЮ ГОНАР"




У сонечны травеньскі дзень, калі па ўсёй Латгаліі цвіла чаромха, у адным са старажытных гарадоў гэтага краю Латвіі – Вараклянах, адбылося адкрыццё выставы "Беларускія ўражанні" Аб'яднання мастакоў-беларусаў Балтыі "Маю гонар".

Хоць ранняя вясна яшчэ не абудзіла поўную квецень латгальскіх садоў, але творы беларускіх мастакоў, насычаныя багатай палітрай колераў і стыляў, дабавілі да гэтай квецені і беларускія колеры, і радасны вясновы настрой наведнікам музея і жыхарам горада.

Выстава адкрылася ў Музеі Вараклянскага краю, што размясціўся ў старым былым палацы генерал-паручніка графа Міхаіла Борха. У экспазіцыі выстаўлены 37 прац жывапісу, графікі, акварэлі, скульптуры і фотамастацтва. Гэта літаграфіі і акварэль Алены Лаўрыновіч, малюнкі тушам і жывапіс Алены Раманенка, акварэлі Вячаслава Лаўрыновіча, жывапіс Ганны Пейпіні, Надзеі Ізянёвай, Аліны Літвіненка, Тамары Насенка, Ірыны Трумпель-Сабалеўскай, Алега Аблажэя і Яна Кузміцкага, драўляныя рэльефы і жывапіс Васіля Малышчыца, жывапіс і графіка Вячкі Целеша, каляровыя здымкі фотамастачкі Алены Ціхаміравай.

Падчас адкрыцця выставы беларускіх мастакоў віншавалі кветкамі і падарункамі латгальцы – дырэктарка музея Тэрэса Корсака, захавальніца фондаў і арганізатар выставаў Ілзэ Марынска, старшыня Думы Вараклянскага краю Марыс Юст, а таксама мясцовыя прыхільнікі мастацтва і культуры.

Пасля кавы супрацоўніца музея Ліга Осіпава правяла мастакоў па залах музея і расказала пра гісторыю роду Борхаў, які паходзіў з Італіі, пазней яго радаводныя галінкі былі звязаны з Польшчай, пра іх радаводны маёнтак і палац, пабудаваны ў 1789 г. па праекце італьянскага архітэктара Вінцэнца Мацоці. Побач з палацам па праекце гэтага ж архітэктара быў закладзены парк, які да сёння захаваў старыя дрэвы, планіроўку і свае легенды.

Пасля адкрыцця выставы па старым парку і па іншых гістарычных мясцінах горада экскурсію з мастакамі правяла вялікая прыхільніца гісторыі і мастацтва дырэктарка Тэрэса Корсака.

Выстава аб'яднання ў Вараклянах – гэта працяг вандровак беларускага мастацтва па Латгальскім рэгіёне, які быў пачаты ў 2011 годзе ў г. Рэзэкнэ. Вандроўкі выставы па гарадах Латгаліі – гэта добрыя крокі беларускіх мастакоў на шляху інтэграцыі грамадства ў Латвіі, што цяпер актуальна для латвійскай дзяржавы. Гэта не толькі папулярызацыя беларускага мастацтва, але і знаёмства беларусаў з гісторыяй, культурай і традыцыямі латгальцаў, з іх мовай. На гэтых выставах можна пачуць як латышскую, так і латгальскую і беларускую мовы. Мастацтва, культура і мова аб'ядноўваюць людзей.

*Вячка Целеш, svitanak.lv*

## ЗАВЕРШАНА ВЫПРАЦОЎКА СТРАТЭГІІ РАЗВІЦЦЯ АДУКАЦЫІ БЕЛАРУСКАЙ МЕНШАСЦІ Ў ПОЛЬШЧЫ

На афіцыйным сайце Міністэрства адміністрацыі і ўвядзення лічбавых тэхналогій з'явіўся тэкст дакумента, датычнага стратэгіі развіцця адукацыі беларускай меншасці ў Польшчы. Дакумент распрацоўваўся пры ўдзеле ўрадавай адміністрацыі, Міністэрства адукацыі і органаў самакіравання, а таксама беларускай меншасці ў Польшчы, у прыватнасці аб'яднання бацькоў, што вывучаюць беларускую мову "АБ-БА", старшынёй якога да нядаўняга часу была Барбара Пякарская: "У стварэнні гэтага дакумента ўдзельнічалі міністр адукацыі і міністр адміністрацыі, мясцовыя органы самакіравання: маршалак, ваявода і мы таксама. У прапановах ёсць, напрыклад, каб сачылі, хто будзе дырэктарам школы, дзе вывучаецца беларуская мова, і каб атрымаць нейкія рэкамендацыі ад беларускай меншасці".

Беларуская меншасць ставіла націск на тое, каб была захаваная паслядоўнасць беларускамоўнай адукацыі ад дзіцячага садка да ліцэя, каб выдаваліся абноўленыя падручнікі і каб з'явілася гісторыя беларусаў Падляшша. Паводле слоў Барбары Пякарскай, хоць дакумент не мае рангу закона, аднак ён можа даць практычныя вынікі.

*Кастусь Бандарук,*
*"Беларускае Радыё Рацыя"*

## ВЫЙШАЎ ШОСТЫ НУМАР ЧАСОПІСА "САКАВІК"

Выйшаў шосты нумар вэб-часопіса "САКАВІК: КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ": www.sakavik.net.

У нумары змешчаныя артыкулы рэдактара часопіса Пётры Мурзёнка: "Русский язык супраць нацыяналізму беларусаў і ўкраінцаў", "Колькі беларусаў жыве ў цэлым сьвеце", "Міграцыя беларусаў у Канаду ў параўнаньні з краінамі-суседзямі" - а таксама артыкул Вацлава Ластоўскага "Что нужно знать каждому беларусу?" у перакладзе Пётры Мурзёнка на рускую мову.

Рэдактар часопіса заклікае дасылаць свае артыкулы і водгукі.

*Інфармацыйны цэнтр*
*МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

### АБВЕСТКІ

Шаноўныя сябры!

"Беларуская хата" і рэдакцыя газеты "Маланка" ў Іркуцку вымушана была зноўку пераехаць. Калі будзеце дасылаць лісты поштай, дасылайце на новы адрас: **664035, г. Иркутск, ул. Мало-Якутская, 19. "Беларуская хата". Рудакову О.В.**

Электронка і тэлефоны засталіся папярэднія: **malanka2000@mail.ru, (3952) 40-11-45.**

Чакаю лістоў, нават, калі Вы раней не ліставалі! Ну, і прыходзьце ў госці!

*Алег Рудакоў*

Згуртаванне беларусаў Вугоршчыны імя Ш. Баторыя адкрыла новы вэб-сайт – **www.belcommunity.org.** На сайце публікуюцца навіны з жыцця згуртавання, разнастайныя праекты, ёсць бібліятэка венгерскіх і беларускіх перакладаў. Сайт працуе на трох мовах – беларускай, венгерскай, ангельскай.

Калі ласка, далучайцеся! Чакаем таксама цікавай інфармацыі, навін, артыкулаў пра беларуска-венгерскія стасункі для публікацыі на сайце.

*Вераніка Бурсевіч*

# ВІНШАВАЛЬНЫ ЛІСТ З НАГОДЫ 60-ГОДДЗЯ АНГЛА-БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА

***17 траўня Англа-беларускае таварыства адзначыла сваё 60-годдзе. На ўрачыстасці з нагоды юбілею сярод віншаванняў быў зачытаны ліст ад Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", які мы змяшчаем ніжэй.***

Шаноўныя сябры!

Ад імя Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына” сардэчна віншуем вас з юбілеем Англа-беларускага таварыства! 60 гадоў — істотны тэрмін. За гэты час любы чалавек назапашвае багаты жыццёвы досвед. Калі ж казаць пра супольнасць людзей, з’яднаных агульнай справай, дык досвед такога згуртавання ўключае вопыт некалькіх пакаленняў. І выдатна, калі гэты вопыт спрыяе як захаванню традыцый супольнасці, так і развіццю яе дзейнасці.

Англа-беларускае таварыства можна смела назваць адной з самых старых і актыўных арганізацый замежжа, што займаюцца даследаваннем Беларусі і распаўсюдам ведаў пра Беларусь.

Таварыства, якое паўстала ў 1964 годзе, мае вытокі ў Згуртаванні беларусаў у Вялікай Брытаніі. Для нас вялікі гонар, што беларуская справа цікавая ў Вялікабрытаніі не толькі беларусам, якія жывуць там, але і карэнным жыхарам Каралеўства. І тое, што інтарэс гэты, які аднойчы стаў прычынаю з’яўлення таварыства, не знікае і не згасае ўжо 60 гадоў, па-сапраўднаму цешыць нас і паказвае, што Англа-беларускае таварыства — жывая, дзейная арганізацыя.

Дзякуй, дарагія сябры, што робіце яе такой, за тое, што вы з імпэтам і разуменнем важнасці сваёй справы, нягледзячы на фінансавыя ды іншыя цяжкасці, рупліва працуеце дзеля распаўсюду і абмену ведаў, звязаных з Беларуссю, яе гісторыяй і культурай. Тут, у Вялікабрытаніі, дзе пра нашу краіну ведаюць няшмат, гэта асаблівa




важна. Але хочам адзначыць, што справа, якую вы робіце, нашмат больш глабальная і сягае далёка за межы Вялікабрытаніі, бо вы робіце веды пра Беларусь даступнымі для ўсяго англамоўнага свету, а значыць, для многіх іншых краін.

Англа-беларускае таварыства працягвае сваю працу: ладзяцца цікавыя лекцыі і дыскусіі на беларускую тэматыку, выдаюцца кнігі, арганізоўваюцца святкаванні і канцэрты, адзначаюцца важныя для беларускага народа даты, праводзяцца іншыя цікавыя мерапрыемствы.

Асобна хочацца згадаць нядаўняе аднаўленне выхаду “Журнала беларускіх даследаванняў” пасля больш чым 20-гадовага перапынку. Гэта найстарэйшае англамоўнае рэцэнзаванае выданне беларускіх даследаванняў, якое пачало выпускацца яшчэ ў 1965 годзе.

Нельга не адзначыць і адно з апошніх вялікіх і важных мерапрыемстваў, якія Англа-беларускае таварыства зладзіла супольна са Згуртаваннем беларусаў у Вялікай Брытаніі, — канферэнцыю “Кастусь Каліноўскі і нацыятворчы працэс у Беларусі”, якая прайшла ў канцы сакавіка і сабрала блізу 50 удзельнікаў з розных краін.

Варта падкрэсліць і тое, што Англа-беларускае таварыства і Згуртаванне беларусаў у Вялікай Брытаніі ўсе гэтыя гады ставяцца адна да адной з узаемнай павагай і нават маюць нямала агульных сяброў. Няхай і далей будуць моцнымі паміж вамі сяброўскія повязі!

Дарагія сябры!

Прыміце шчырую падзяку ад Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына” за вашую працу.

Кожнаму з вас мы хочам пажадаць шчасця, радасці, аптымізму і, безумоўна, моцнага здароўя! Зычым вам імпэту, сілаў і плёну ў вашай справе, зычым новых адкрыццяў і новых сяброў!

*Алена Макоўская,*
*кіраўнік МГА “Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына”*

*Ніна Шыдлоўская,*
*старшыня Рады МГА “Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына”*

НАВІНЫ “БУДЗЬМА!”

# ВОСЬ І КУХНЯ ЗАГАВАРЫЛА ПА-БЕЛАРУСКУ!

Усе дарогі вядуць туды – у самае ўтульнае месца ў кватэры… Так-так! Гэта — кухня. Тут мы штодня выкарыстоўваем безліч начыння і посуду. А ці ўмеем кожнае з іх назваць па-нашаму, па-беларуску? Кампанія “Будзьма беларусамі!” прадстаўляе новую паштоўку з серыі “Не маўчы па-беларуску!” і прапаноўвае гатаваць і вучыць родную мову адначасова!

Шукайце паштоўкі серыі на стэндах FlyCards!

*Не маўчы па-беларуску!” – серыя паштовак ад кампаніі “Будзьма!” і маладых таленавітых мастачак Дар’і Мандзік і Яны Войцік – бясспрэчна дапаможа ў штодзённай камунікацыі ўсім, хто толькі пачынае размаўляць на беларускай мове ці толькі на ёй і гаворыць, хто пачынае цікавіцца роднай мовай ці ўсё пра яе ведае і выкарыстоўвае штодня.*

*Не маўчым па-беларуску разам!*



## БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ НА ЧЭРВЕНЬ 2014 ГОДА

1 чэрвеня – 60 гадоў таму ў Мінску нарадзіўся Алесь Асташонак (1954–2004), пісьменнік, перакладчык.

4 чэрвеня – 30 гадоў таму ў Асунсьёне (Парагвай) памёр Язэп Пігулеўскі (1912–1984), удзельнік беларускага нацыянальнага партызанскага руху на Палессі падчас Другой сусветнай вайны, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне, Бразіліі і Парагваі. Нарадзіўся на Століншчыне ў 1912 г.

5 чэрвеня – 95 гадоў таму, у 1919-м, у Вільні выйшаў першы нумар газеты ″Беларускае жыццё". Рэдактар Францішак Аляхновіч.

6 чэрвеня – 80 гадоў таму ў Санкт-Пецярбургу (тады Ленінградзе, Расія) памёр Браніслаў Эпімах-Шыпіла (1859–1934), дзеяч беларускай культуры, выдавец, мовазнавец, літаратуразнавец.

13 чэрвеня – 180 гадоў таму, у в. Астраўляны Віцебскага пав. нарадзіўся Канстанцін Вераніцын (1834–1904(?)), літаратар, верагодны аўтар паэмы ″Тарас на Парнасе".

16 чэрвеня – 350 гадоў таму, у 1664-м, войска гетмана Міхала Казіміра Паца перамагло маскоўскае войска пад Віцебскам.

16 чэрвеня – 180 гадоў таму ў в. Дудзічы (цяпер Пухавіцкі р-н) нарадзіўся Аляксандр Ельскі (1834–1916), гісторык, этнограф, краязнавец, пісьменнік, перакладчык, публіцыст.

16 чэрвеня – 15 гадоў таму памёр Мікола Нікан (1908–1999), настаўнік, вайсковец, дзеяч эміграцыі ў Вялікабрытаніі і Аўстраліі. Пахаваны на беларускай частцы могілак Фолкнер у Мельбурне (Аўстралія).

17 чэрвеня – 80 гадоў таму, у 1934-м, адбыўся нелегальны з'езд Таварыства беларускай школы.

17 чэрвеня – 60 гадоў таму ў ссылцы ў Сібіры (сяло Машукоўка Матыгінскага р-на Краснаярскага краю, Расія) памёр Барыс Мікуліч (1912–1954), пісьменнік, вязень ГУЛАГу.

18 чэрвеня – 125 гадоў таму, у 1889-м, нарадзіўся Уладзімір Каліноўскі (г. Ваўкавыск), грамадска-палітычны дзеяч, публіцыст. Расстраляны ў савецкім зняволенні ў 1940(?)г.



19 чэрвеня – 90 гадоў таму ў в. Бычкі (цяпер Ушацкі р-н) нарадзіўся Васіль Быкаў (1924–2003), народны пісьменнік Беларусі (на здымку).

21 чэрвеня – 150 гадоў таму ў в. Бялевічы (цяпер Слуцкі р-н) нарадзіўся Аляксандр Сержпутоўскі (1864–1940), этнограф і фалькларыст.

25 чэрвеня – 40 гадоў таму памёр Янка Рамановскі (1928–1974), мастак.

26 чэрвеня – 105 гадоў таму, у 1909-м, нарадзіўся Антон Адамовіч (г. Мінск), гісторык, літаратуразнавец, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША. Памёр у Нью-Йорку, ЗША (1998 г.).

27 чэрвеня – 70 гадоў таму, у 1944-м, у Мінску прайшоў Другі Усебеларускі кангрэс, скліканы Беларускай Цэнтральнай Радай. Удзельнічала 1039 дэлегатаў. Кангрэс аб'явіў Беларускую Цэнтральную Раду адзінай легальнай уладай у Беларусі.

27 чэрвеня – 25 гадоў таму, у 1989-м, у Мінску прайшоў Устаноўчы з'езд Таварыства Беларускай Мовы імя Францыска Скарыны.

30 чэрвеня – 55 гадоў таму ў г. Хімкі (Маскоўская вобл., Расія) памёр Міхайла Грамыка (1885–1969), пісьменнік, вучоны.

## КАМУ КНІГІ?! БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА ЦЯПЕР І Ў РЭГІЁНАХ

Кнігі выдавецтва "Кнігазбор" цяпер можна набыць і ў рэгіёнах!

Не трэба шукаць у сеціве і чакаць, пакуль кніга прыйдзе поштай. Хопіць наракаць, што якасную беларускую літаратуру рэальна знайсці толькі ў сталічных кнігарнях.

Да вашых паслугаў кнігі для дзетак і дарослых. Яскравыя выданні дзіцячай серыі "Каляровы ровар" ("Чытанка для маленькіх", "Найлепшы спявак у свеце", "Снежны чалавек"), кнігі Алега Трусава, Барыса Пятровіча, літаратурныя альманахі і іншыя кніжныя цікавосткі!




**Адрасы кнігарняў:**

г. **Баранавічы**, "Кнігі" (вул. Савецкая, 73); г. **Гродна**, "Праметэй" (вул. Савецкая, 10); г. **Ліда**, "Кніжны свет" (пр. Перамогі, 33); г. **Маладзечна**, "Спадчына" (вул. Прытыцкага, 7); г. **Наваполацк**, "Усход" (вул. Кірава, 4); г. **Полацк**, "Светач" (вул. Камуністычная, 21).

Сачыце за навінамі!

Чакайце "Кнігазбор" у вашым горадзе!

**Беларусы ў свеце**
№5(145), травень 2014

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына".
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.

Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.
Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – А. Башарымава
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906,
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb@tut.by

тэл./факс (+375 17) 200-70-27